© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 3 (31) ✦ Люты 1993 г. Цана 3 руб.


## У ГЭТЫМ НУМАРЫ:



# У падтрымку рэформ

**7—8 лютага ў Менску праходзіла міжнародная канферэнцыя «Вопыт рэформ сістэмы мясцовага самакіравання ў Рэспубліцы Польшча». Арганізавалі імпрэзу Беларускі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі, Форум Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, фонд «Сорас-Беларусь».**

Уступным словам канферэнцыю адкрыў вядомы беларускі навуковец і грамадскі дзеяч А. Мальдзіс, які вітаў сабраўшыхся прадстаўнікоў органаў польскага мясцовага самакіравання з Варшавы, Шчэціна, Гданьска, Беластоку, Бяла-Падляскі, польскіх і беларускіх юрыстаў, даследчыкаў права, дэпутатаў мясцовых Саветаў розных узроўняў, гасцей з Прыбалтыкі і Украіны, журналістаў. У сваёй кароткай прамове сп. А. Мальдзіс параўнаў сённяшнюю Беларусь з магутным дрэвам, якое небяспечна нахілена на ўсход. Ён адзначыў, што перад усімі патрыётамі Бацькаўшчыны стаіць задача выправіць гэты нахіл, зрабіць дрэва вертыкальным. І важна не нахіліць «дрэва Беларусі» ў адваротным напрамку—на Захад, што таксама небяспечна для нашай незалежнасці. Трэба ўраўнаважваць і ўсходні, і заходні ўплывы. Галоўнае, адзначыў Мальдзіс—выхаваць сапраўднага, свядомага гаспадара незалежнай Беларусі. І таму неабходна адраджаць традыцыі, якія ідуць ад магдэбургскага права, ад Статута Вялікага княства Літоўскага. Аднаўляць тое лепшае, што было ў нашай гісторыі.

Польскія госці выступілі з дакладамі, у якіх растлумачылі мэты і спосабы ажыццяўлення рэформы сістэмы мясцовага самакіравання ў Польшчы. Адзначалася, што нашая заходняя суседка далучылася да Еўрапейскай хартыі самакіравання. Хартыя прадугледжвае значны дэмакратызм дзейнасці мясцовых органаў самакіравання, што павінна адлюстроўваць канстытуцыя і адпаведнае заканадаўства краіны. Менавіта так і зроблена ў Польшчы, дзе канстытуцыяй і спецыяльным законам адрэгулявана дзейнасць мясцовых органаў.

Палякі паведамілі, што цяпер у іх ажыццяўляецца другі этап рэфармавання органаў мясцовага самакіравання. Усё, што адносіцца да дэмакратызацыі дзейнасці мясцовага самакіравання, зроблена на першым этапе рэформы. У выніку органы мясцовага самакіравання—гміны—зараз сталі сапраўды дэмакратычнымі, атрымалі значна больш самастойнасці, чым было пры камуністычнай уладзе. На актуальным этапе рэформы будуць створаны паветы (у гарадах—рады), кожны з якіх павінен складацца з некалькіх гмінаў. Гэта, аднак, не азначае, што ствараецца нейкая новая камандная структура. Ажыццяўляецца пераход ад аднаўзроўневай сістэмы самакіравання (гміна) да двухузроўневай (гміна—павет). Пры гэтым правы гмінаў не будуць абмежаваны. На думку польскіх сяброў, гэта ўдасканаліць сістэму мясцовага самакіравання. Трэба адзначыць, што ўжо цяпер прынцыпы мясцовага самакіравання ў Польшчы ў вельмі высокай ступені адпавядаюць міжнародным стандартам, якія замацаваны ў «бібліі» мясцовага самакіравання—Еўрапейскай хартыі, якая дзякуючы свайму ўніверсальнаму характару можа прымяняцца ў розных краінах. Важнейшае права органаў мясцовага самакіравання—права на судовую абарону. Любая гміна можа абскардзіць у судзе любое рашэнне вышэйстаячых органаў, якое ўшчамляе яе інтарэсы.

У 1989 годзе быў створаны адміністрацыйны суд. Вышэйшы адміністрацыйны суд знаходзіцца ў Варшаве, яго аддзяленні—у буйнейшых гарадах. Суддзяў гэтага суда пажыццёва назначае прэзідэнт Польшчы, што з'яўляецца гарантыяй іх незалежнасці. Вышэйшы адміністрацыйны суд кантралюе адміністрацыю ваяводстваў, якая прызначаецца ўрадам. Ваявода можа адмяніць любое рашэнне гміны, калі ўбачыць у ім парушэнне закону. У сваю чаргу, гміна можа абскардзіць рашэнне ваяводы ў Вышэйшым адміністрацыйным судзе. Такое можа зрабіць і любы грамадзянін Польшчы. Ён і адміністрацыя раўнапраўны перад судом. Але адміністрацыя абавязана выплачваць грамадзянам судовыя расходы (адвакат і інш.).

Вышэйшы адміністрацыйны суд за некалькі гадоў ужо разгледзеў каля 120 тыс. скаргаў, прыкладна 40% з іх задаволены, што сведчыць аб значным злоўжыванні ўладамі адміністрацыйнымі метадамі кіравання. Рашэнні Вышэйшага адміністрацыйнага суда могуць быць перагледжаны Вярхоўным судом краіны, што здараецца даволі рэдка.

З паведамленнямі на канферэнцыі выступілі прадстаўнікі саюза гарадоў Эстоніі, Латвіі, мясцовага самакіравання Украіны.

У абмеркаванні пытання рэформы сістэмы мясцовага самакіравання прынялі ўдзел вопытныя юрысты, члены Канстытуцыйнай камісіі, дэпутаты мясцовых Саветаў рознага ўзроўню. У прыватнасці, старшыня Слаўгарадскага гарсавета Ф. Шкірманкоў паведаміў аб цікавым выпадку. Напэўна, упершыню ў Беларусі мясцовы Савет указаў вышэйстаячай афіцыйнай асобе—нам. старшыні Магілёўскага аблвыканкама—на ігнараванне ім інтарэсаў ніжэйстаячага Савета. Пракуратура пацвердзіла правільнасць дзейнасці Слаўгарадскага гарсавета. Пазіцыю мясцовай прадстаўнічай улады ў гэтым выпадку высока ацаніў член Канстытуцыйнай камісіі, прафесар юрфака БДУ А. Галаўко. Сёння выканаўчая ўлада ў нас паўсюдна не лічыцца з інтарэсамі мясцовай прадстаўнічай улады. Большасць выступаючых прапанавала скасаваць абласныя структуры.

Польскія госці далі прэс-канферэнцыю для журналістаў. На пытанне нашага карэспандэнта: «Ці карыстаюцца дэпутаты мясцовых органаў—гмінаў—дэпутацкім імунітэтам? Ці могуць яны, карыстаючыся гэтым, пазбегнуць пакарання за незаконныя ўчынкі?» было адказана: «Не, дэпутаты гмінаў дэпутацкай недатыкальнасці сваёй асобы не маюць. Калі дэпутат здзейсніць злачынства, наступствы для яго будуць тыя ж, што і для іншага грамадзяніна. Але закон абараняе дэпутатаў ад фізічнага нападзення, рабаўніцтва і г. д.—тут вынікі для злачынцы будуць больш сумнымі, чым у выпадку нападзення на грамадзяніна—недэпутата». Такім чынам, калі ў нас будуць падобныя законы, то многія нашыя дэпутаты не змогуць злоўжываць беспакарана сваім становішчам.

Напрыканцы сустрэчы прадстаўнікі мясцовага самакіравання Беларусі, Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Украіны падпісалі пратакол аб намерах па супрацоўніцтву. Вырашана звярнуцца ў фонд Сораса за фінансавай дапамогай для наладжвання інфармацыйнай структуры, якая мае на мэце ўмацаванне супрацоўніцтва незалежных дзяржаў у галіне мясцовага самакіравання.

**А. КОЛІН.**

**Ад рэдакцыі:** *Як нам стала вядома, Віцебскае аддзяленне Фонда Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў плануе ў бліжэйшыя тры месяцы правесці абласную канферэнцыю па пытаннях мясцовага самакіравання.*

*Тых, хто мае якіясьці прапановы альбо жадае прыняць удзел у канферэнцыі, просім прыслаць лісты й заявы на адрас газеты «Выбар».*




**АНОНС:** у будучым нумары—пра Польска-чэшска-славацкую Салідарнасць.

✦

Вроцлаў, 17 красавіка 1987 г.

Першая дэманстрацыя Польска-чэшска-славацкай Салідарнасці ў абарону пасаджанага ў турму Петра Поспехаля.

✦

## ГОЛАС З НАТОЎПУ (КПБ—ПКБ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА)

Я проста жанчына, калі не жанчына—дык баба,
Мне іншае, іншае, іншае сёння баліць:
Не партыі вашы, што зноў падкладуць пад прараба,
А як мужыка і дзяцёнка свайго накарміць.

Не трэба, не трэба мне новай і светлай дарогі,
Мне не ў чым ісці, бо за што сандалеты купіць?..

Я поўнюся сёння ад горка-пагрознай трывогі,
Ці босай застацца, ці з некага імпарт злупіць.

Я ўжо на мяжы, на мяжы ў сляпога адчаю...
Зірніце хоць раз з-пад чырвоных сцягоў на мяне.
Я ж раптам сарвуся, я ж потым ужо не спытаю,
Хто быў вінаваты, хто правы ў агульнай віне.

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Вінцук Вячорка:

# «НАПЕРАДЗЕ—ЦЯЖКАЯ ДАРОГА АДРАДЖЭНЬНЯ»

**Наш карэспандэнт сустрэўся і гутарыў у Менску зь вядомым дзеячам нацыянальнага Адраджэньня, сакратаром управы Сойма БНФ Вінцуком Вячоркам. Ніжэй мы падаём асноўныя моманты гэтае гаворкі.**

**«Выбар»: Раскажыце, калі ласка, пра гісторыю і сёньняшні дзень Беларускага гуманітарнага ліцэю, у якім Вы працуеце.**

**В. Вячорка:** Мушу заўважыць, што асноўная мая праца—гэта часапіс «Спадчына». Разам са мной нямала яшчэ людзей працуе ў ліцэі ў вольны ад асноўнай працы час. Завядзёнка такая ў нашага нешматлікага нацыянальнага сьвядомага народу даволі даўняя. Калі прыгадаць гісторыю міжваеннай Вільні, дзе была беларуская гімназія, можна ўбачыць такую ж сітуацыю: амаль усе свядомыя беларускія дзеячы таго часу лічылі сваім абавязкам там выкладаць. Гэта сьведчыць, што мы думаем ня толькі пра сёньняшні дзень, але і пра заўтрашні і пасьлязаўтрашні. Бо з муроў гэтага ліцэю выйдзе той самы пасьлязаўтрашні дзень Беларусі.

Гісторыя ліцэю па-свойму ўнікальная. Узьнік ён, у адрозьненьне ад іншых навучальных устаноў такога тыпу (ліцэяў, коледжаў, гімназіяў) не на базе сярэдняй школы, а абсалютна на голым мейсцы. Гэта была ініцыятыва рады ТБМ Савецкага раёну Менска, калі канкрэтней, то групы людзей, у якую ўваходзілі рэжысёр Уладзімір Колас, тэатральны крытык Вячаслаў Ракіцкі, настаўніца Ала Кажэра і шматлікія іншыя, хай даруюць, калі кагосьці не назваў. Падтрымаў гэтую справу Алег Трусаў, які зьяўляецца дэпутатам ад адной з акруг Савецкага раёну Менска. Першапачаткова не было гутаркі пра паўнамаштабную сярэднюю навучальную ўстанову. Можна было гаварыць толькі пра нядзельны ліцэй—дапаўняльныя курсы беларушчыны для дзяцей-школьнікаў, а таксама для дарослых—у такім разе яны мелі вечаровы характар. На гэтых курсах і школьнікі, і дарослыя атрымлівалі веды, якія яны не маглі набыць у школе—зь беларускай гісторыі, культуры, мовы, літаратуры.

Ідэя нядзельнага ліцэю была сустрэта ў цэлым прыхільна і ўдалося здабыць памяшканьне для заняткаў у адной са школаў Менска. Аднак потым пачаліся канфлікты, перад усім—з настаўніцтвам гэтай школы, якое было напалохана пэрспэктывай ператварэньня ліцэю зь нядзельнага ў паўнацэнную сярэднюю навучальную ўстанову і баялася за свой прафэсійны лёс (бо гэтыя людзі не валодалі беларускай мовай, а сёй-той і ставіўся да яе грэбліва). І ў выніку ліцэй вымушаны быў перабазавацца з цэнтра горада на далёкую ўскраіну. Але сталася галоўнае—Мінадукацыі дало сваю згоду на ператварэньне ліцэю ў паўнацэнную сярэднюю навучальную ўстанову...

Сёньня ліцэй—гэта дзённае, вечаровае і нядзельнае адзьдзяленьні. На дзённым адзьдзяленьні сем навучальных клясаў: 8-я—9-я—падрыхтоўчыя, 10-я—11-я—ліцэйскія. На вечаровым займаюцца ў 3-х групах дарослыя. На нядзельным адзьдзяленьні—дзеці, якія наведваюць ліцэй замест навучальна-вытворчага камбінату. Акрамя школьнай праграмы, выкладаюцца прадметы арыгінальныя, кампанэнты ліцэйскага пляна навучаньня.

Гэта перад усім культуралягічныя прадметы: гісторыя сусьветнай культуры, гісторыя і культура беларускай мовы, гісторыя беларускай музыкі, лёгіка, рэлігіязнаўства і іншыя. Дзейнічаюць творчыя факультатывы. Абавязкова трэба адзначыць, што многія прадметы звычайнага школьнага курсу выкладаюцца па арыгінальных праграмах, створаных самімі выкладчыкамі ліцэю. Скажам, няма прадмету «расейская літаратура»—ёсьць прадмет «сусьветная літаратура», якую выкладае Лявон Баршчэўскі. Ён жа разам з кандыдатам філялягічных навук, вядомым літаратуразнаўцам і крытыкам П. Васючэнкам стварыў праграму і ўклаў чытанку па сусьветнай літаратуры, у якую ўвайшлі творы сусьветнай клясікі, перакладзеныя на беларускую мову як самім Л. Баршчэўскім, так і іншымі перакладчыкамі.

Можна лічыць, што ліцэй зьяўляецца мэтадычнай пляцоўкай, дзе ажыцьцяўляецца стварэньне ўнікальных праграмаў, апрабацыя гэтых праграмаў, вядзецца мэтадычны пошук. Не чакаючы, пакуль гэтым займецца дзяржава, адпаведныя кадры якой яшчэ не адчуваюць, што мы жывём у незалежнай Беларусі, ліцэй узяўся за выпрацоўку новай канцэпцыі нацыянальнай школы і выпрабоўвае яе на практыцы. І мне здаецца—дзецям падабаецца. Напэўна, гэта галоўнае наша дасягненьне—тое, што створана сапраўды беларуская ад пачатку да канца школа, беларуская не па шыльдзе, а па сваім духу, школа, якая становіцца і для выкладчыкаў, і для дзяцей родным домам.

**«Выбар»: Ці лічыце Вы аптымальнымі для нацыянальнага Адраджэньня навучальныя ўстановы новага тыпу—гімназіі, ліцэі? Ці дапамогуць яны выхаваць новае пакаленьне, аддадзенае Беларусі?**

**В. Вячорка:** Цікавае і неадназначнае пытаньне. Мне здаецца, трэба працаваць у двух кірунках. З аднаго боку, трэба дбаць пра беларусізацыю масавага навучаньня. Але чыста мэханічны пераклад на беларускую мову таго праграмнага зьместу, што цяпер прапануецца—возьмем хаця б «Историю Отечества», якая ёсьць гісторыя Расейскай імпэрыі—гэта толькі нязмушаны падман нашых дзяцей. Бясспрэчна, мы павінны дбаць і пра цалкам беларускамоўнае навучаньне (а ня так, як цяпер, калі па-беларуску выкладаюцца толькі беларуская мова і літаратура і яшчэ 2—3 прадметы, а рэшта прадметаў не выкладаецца, бо, маўляў, настаўнік ня ўмее). Я лічу, што беларуская мова ў падручніках павінна быць жывая і самабытная, а не такая, якую мы чытаем на старонках падручніка па матэматыцы, дзе фігуруе «прэдзел» і падобныя перліны бальшавіцкай словатворчасьці. Трэба зьмяняць праграмны зьмест і гуманітарных прадметаў, і дакладных дысцыплінаў. Так, нават дакладных дысцыплінаў. Элемэнтарныя зьвесткі пра гісторыю матэматыкі ці хіміі на Беларусі наш вучань павінен ведаць. Што ж да ліцэю ці гімназіі, то я лічу, што яны павінны быць той зязюляй, якая загадзя кувае. Аднекуль мусіць брацца, хай даруюць мне гэты выраз, «эліта»—тыя людзі, якія ўжо са школьных гадоў ведаюць, што яны—адраджэнцы, што ў нашай вельмі няпростай нацыянальна-культурнай сітуацыі нехта мусіць цягнуць гэтую лямку і сьвядома рыхтавацца да такой ролі, быць тым каменем, ад якога хвалі пойдуць, каб зварухнуць наша застойнае балота. І ў гэтым сэнсе патрэбна існаваньне элітарных, можа быць, падкрэслена элітарных, са сваімі традыцыямі, са сваім гонарам навучальных установаў.

Урэшце, калі паглядзець на цяперашняе адраджэнскае асяродзьдзе, то можна ўбачыць, што гэтыя людзі да ўсяго даходзілі сваім розумам, «самапасам», часта ў адзіноцтве, і вельмі цешыліся, калі на пэўным этапе сваёй біяграфіі раптам знаёміліся з кімсьці, хто думае гэтаксама. Нябожчык У. Караткевіч, дарэчы, казаў нам з С. Сокалавым-Воюшам: «Вам, хлопцы, лягчэй, бо вы ідзяце разам, а мы былі адзінокія, як купіны на балоце». Так што, вось гэтыя два шляхі: і масавая школа, і элітарная школа, але абедзьве—нацыянальныя. Відаць, гэта найбольш пэўны спосаб, зважаючы, што школа заўсёды была спосабам адраджэньня культуры, адрадзіць нацыянальную культуру.

**«Выбар»: На пачатку гэтага года Васіль Быкаў у інтэрвію «Зьвязьдзе» заявіў, што «Беларусі пагражае вялае перараджэньне ў звыклы «суб'ект канфэдэрацыі або фэдэрацыі». Вы ставіцеся да такой пагрозы?**

**В. Вячорка:** Вельмі шаную Васіля Быкава, але хацеў бы, каб у гэтым прагнозе ён памыліўся. Апошнія гады паказалі, што прагрэс існуе. Яшчэ колькі гадоў таму ніхто ня мог прадказаць такога галавакружнага разбурэньня камуністычнага монстру і савецкай імпэрыі. Гэта адбылося. Паколькі існуе прагрэс, то канец любой імпэрыі непазьбежны. Магчыма, адбудзецца нейкі галавакружны піруэт гісторыі і Беларусь зноў завалакуць у нейкае падабенства фэдэрацыі ці канфэдэрацыі—магчыма на 5—10 працэнтаў. Але калі Татарстан уздымае пытаньне аб сваім уступленьні ў ААН! Для гэтай імпэрыі, а яна ў куртатым выглядзе, але ж імпэрыя, гэтае—цяжкі ўдар. Паходы Ермака, войны з Казаньню зрабілі цяперашнюю тэрыторыю Расеі. Надыходзіць расплата за імпэрскі грэх.

Што датычыць Беларусі, то, я думаю, яна дасьць сабе рады. Бо нават гэты бездапаможны Вярхоўны Савет і гэты, бясспрэчна, прадажны Саўмін змушаны будуць захоўваць незалежнасьць дзеля таго хаця б, каб захавацца самім. Жыцьцё прымусіць уводзіць нацыянальную валюту, умацоўваць нацыянальнае войска. Адзіная бяда—з-за супраціўленьня намэнклятуры ўсё гэта адбываецца позна. Усё можна было б зрабіць меньш балесна для нашага народа.

**«Выбар»: Вы—вядомы дзеяч БНФ. Не сакрэт, што ў апошні час аўтарытэт палітычных партый і рухаў у масавай сьвядомасьці ўпаў. У сувязі з гэтым і з маючымі адбыцца ў наступным годзе выбарамі што плянуе рабіць Фронт?**

**В. Вячорка:** Шчыра кажучы, я ня ўпэўнены, што гэтыя выбары адбудуцца ў наступным годзе, бо паважна не ўспрыняў адпаведную заяву Вярхоўнага Савета—гэта ня ёсьць юрыдычны дакумэнт, не пастанова, а проста дэкларацыя. Але трохі раней ці пазьней выбары адбудуцца. У людзей нарастае агульнае расчараваньне палітыкай і гэта сітуацыя ў цэлым небясьпечная. Але яна небясьпечная і для намэнклятуры. Забараніўшы рэфэрэндум, намэнклятура нанесла страшэнны ўдар па фармаваньню нармальнай грамадзянскай супольнасьці.

Грамадзянская супольнасьць—не тлум. Гэта людзі, якія ўсьведамляюць інтарэсы карпаратыўныя, групавыя. І разам з тым свае індывідуальныя інтарэсы. Яны ўсьведамляюць, што кіраваць дзяржавай магчыма пры дапамозе дэмакратычных мэханізмаў, самы дэмакратычны зь якіх—гэта прамая дэмакратыя, той жа рэфэрэндум. Паколькі ён быў забаронены, расчараваньне ў дэмакратычных мэханізмах можа прывесьці да вельмі небясьпечных вынікаў—умацаваньня веры ў недэмакратычныя мэханізмы, прасьцей кажучы, у «моцную руку». Магчыма адраджэньне таталітарызму ў нейкай новай форме. Эканамічнае становішча на Беларусі сьведчыць толькі пра тое, што мы падаем у бездань трошкі вышэй за іншых. Нам варта зноў і зноў падкрэсьліваць, што эканоміка і палітыка ўзаемазьвязаны, без палітычных зьменаў ня можа быць зьменаў да лепшага ў эканоміцы. І трэба памятаць пра тое, што называюць маральнасьцю палітыкі.

У Польшчы страшэннае расчараваньне большасьцю палітычных сілаў у грамадстве наступіла дзякуючы ініцыятыве «круглага стала», калі дэмакраты заключылі пагадненьне з былымі камуністамі. Польская намэнклятура, трымаючы палітычную ўладу, падключыла палітычныя рычагі для набыцьця ўлады эканамічнай. Знаёмая сітуацыя. У нас адбываецца тое ж самае, што і ў большасьці посткамуністычных краінаў. Апазіцыя ў Польшчы абвінавачвае і сацыялістаў, і лібэралаў у тым, што па прычыне гэтага паразуменьня новая кляса прадпрымальнікаў фармііруецца намэнклятурным спосабам. Гэта ў Польшчы, дзе значна больш дэмакратызму!

Што ж тады казаць пра нас? У гэтым сэнсе маральнасьць палітыкі Беларускага Народнага Фронту і саюзных зь ім дэмпартыяў была б нашым вельмі важным здабыткам. Той факт, што не пайшоў Фронт на згодніцтва з намэнклятурай, а наадварот, выкрывае намэнклятурную «прыхватызацыю», асабліва на мясцовым узроўні, выкрывае злачынствы і парушэньні права—гэта вельмі важкі аргумент і цьвёрды грунт на карысьць выбару за Фронт і саюзныя з ім палітычныя партыі. Я спадзяюся і веру, што людзі заўважаюць гэта і ацэняць, калі надыдзе пара выбараў.

А калі гаварыць пра больш мэтанакіраваныя дзеяньні, то нам трэба павышаць палітычную культуру людзей праз узнаўленьне і пашырэньне сеткі ўнівэрсітэтаў, умацаваньне незалежнай прэсы (хоць гэта асобная тэма. Колькі праблемаў у незалежнай прэсы! І ваша газэта перажывае цяжкасьці, я шчыра зычу ёй посьпехаў). Бясспрэчна, трэба дбаць пра маладое пакаленьне, каб мы не атрымалі праз некаторы час гэнэрацыю абыякавых і зьняверaных людзей. І натуральна, я не магу абмінуць таго, што перад Фронтам стаіць задача зьбіраць да кучы лепшыя мазгі, гуртаваць інтэлект, думаць, абмяркоўваць, прапагандаваць, вызначаць лепшыя шляхі выхаду з крызісу нашай Беларусі—перш за ўсё эканамічныя, а таксама гэапалітычныя. Трэба распрацоўваць канцэпцыі нацыянальнага Адраджэньня, практычна рабіць дзеля гэтага. Тое, што робіць Фронт і саюзныя зь ім палітычныя сілы дзеля аднаўленьня патрыятычнай сьвядомасьці нашага народа, дзеля яго кансалідацыі—гэта прыкметна. Я лічу, гэта для нас жыцьцёва важна, таму што толькі дзякуючы кансалідацыі мы зможам пераадолець гэты нялёгкі пэрыяд. Мы толькі ступілі на шлях Адраджэньня і нялёгкая дарога чакае нас наперадзе. Галоўнае—не блукаць упоцемку, а адразу ступіць на патрэбную дарогу і настойліва ісьці ўперад.

**«Выбар»: Дзякую за гутарку і посьпехаў Вам!**

**Гутарку вёў А. БУКАЧОЎ.**

*Рэпліка*

## Як нас абдурваюць

Ад сціпласці наш прэм'ер-міністр, відаць, не памрэ. Як і наогул увесь цяперашні ўрад Беларусі, які любіць выстаўляць напаказ свае «клопаты» аб простым людзе. Напрыклад, зрабіў наш урад бясплатны праезд у грамадскім транспарце для пенсіянераў і вельмі гэтым ганарыцца. А ў той жа час павышае кошт праезду для тых, хто яшчэ не на пенсіі—выграбае грошы ў дзяцей і ўнукаў тых жа няшчасных пенсіянераў. Я цалкам за тое, каб нашы ветэраны ездзілі ў грамадскім транспарце бясплатна. Але не трэба ўраду выстаўляць гэта як клопат аб народзе. Бо старэйшыя пакаленні заслужылі ад дзяржавы значна большага, чым сапраўды жабрачыя ў параўнанні з цэнамі пенсіі.

Яшчэ адзін свежы прыклад, як урад адурманьвае масавую свядомасць. Напрыканцы мінулага і ў пачатку гэтага года урад запэўніў нас, што ў І квартале павышэння цэнаў на асноўныя прадукты харчавання не будзе. Але ўжо ў студзені павысіліся цэны на многія віды хлеба і хлебабулачных вырабаў. Можа, урадавыя чыноўнікі лічаць асноўнымі прадуктамі харчавання простага люду «чорны» хлеб і ваду? Неяк у мінулую восень, пасля чарговай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД, спадар В. Кебіч пахваляўся, што заключыў з Казахстанам вельмі выгоднае для Беларус пагадненне наконт паставак нам зерня. Напэўна, дзякуючы гэтай пахвальбе і растуць цэны на хлеб?

А. ЯСНЫ.



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

